

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№3 (295) ЛЮТЫ 2021 ГОД

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# ЯК ШУМІЛІНСКІ ПАЛІТВЯЗЕНЬ АДБЫВАЕ “ХІМІЮ”

**«Атрымаў чырвоную бірку схільнага да экстрэмізму». Як адбывае «хімію» палітвязень з Шуміліна Дзмітры Кулакоў?**

Будаўнік з Шуміліна Дзьмітры Кулакоў у сьнежні быў асуджаны на 3,5 года «хіміі» за зьневажальны допіс у інтэрнэце пра міліцыянта. Кулакоў адбывае пакараньне ў спэцкамэндатуры ў Шклове. Жонка актывіста Юлія наведала яго і расказала, як жывецца «хімікам».

**«У краму водзяць пад кантролем»**

«Пра віцебскае СІЗА казаў, што білі, а тут хаця б не чапаюць, але на асаблівы ўлік паставілі», — кажа Юлія. Яе мужа-будаўніка Дзьмітрыя Кулакова адправілі на «хімію» ў Шклоў на 3,5 года. 12 лютага Юлія пабывала ў Дзьмітрыя на спатканьні.

«Кажа, што адразу, як прыбыў, паставілі на ўлік — яны завуць гэта прафіляктычным улікам — як асуджанага, схільнага да экстрэмісцкіх дзеяньняў, захопу закладнікаў ды ўцёкаў. Чаму, асабліва не тлумачылі. Муж мяркуе, што як палітычнага. Казаў пра нейкую адмысловую бірку, якую павесілі. Але пра нейкі асаблівы нагляд за ім пакуль не гаварыў. Ён яшчэ не працуе, увесь час у камэндатуры, а ў краму яны і так выходзяць не паасобку, а групай і пад наглядам міліцыянта. Сама бачыла, як гэта адбываецца», — расказала Юлія. У якіх умовах апынуўся муж, Юлія можа толькі ўяўляць.

«Мяне ж далей за дзяжурку не пускаюць. Ведаю толькі са словаў мужа, што ўсе „хімікі“ жывуць разам, на другім паверсе, і не ў асобных пакоях, не як у інтэрнаце, а ў адным вялікім памяшканьні. Для іх пастаўлены ложкі ў два ярусы, зэдлікі стаяць — усё як у вайсковай казарме», — апавядае Юлія.

У «казарме» разам пражывае некалькі дзясяткаў «хімікаў». У студзені цягам тыдня ў Дзьмітрыя была тэмпэратура, прапаў нюх, не адчуваў смаку ежы, але потым здароўе наладзілася, і цяпер праблемаў няма. «Казаў, некаторых на ізаляцыю адпраўлялі, але не яго. Абышлося», — прыгадала Юлія.

**…Муж Юліі на «хіміі» ўжо больш за месяц.**

«Мы прысуд не абскарджвалі, пагадзіліся з адвакатам, што „хімія“ ў нашым выпадку — гэта яшчэ найлепшы варыянт. Але пракуратура вырак Дзіму абскардзіла, яны хацелі калёніі. У камэндатуры наконт Дзімы чакалі, што будзе далей. Але нядаўна ў Віцебскім абласным судзе разгледзелі пратэст і пакінулі прысуд бязь зьмены. Дарэчы, мяне пра гэта нават не праінфармавалі, але ладна. Цяпер будуць вызначаць, дзе мужу давядзецца працаваць», — кажа Юлія. Паводле яе, у мужа тры варыянты: праца ў калгасе, на будоўлі ці на пілараме.

«Ён скончыў вучэльню ў Лепелі, мае спэцыяльнасьць вальшчыка лесу ды трактарыста, а будаўнік ён паводле паклікаdebate. Кажа, будаваць дамы — гэта ягоная справа. А яшчэ ён рамантуе тэлефоны і кампутары, але не электроніку, а мэханічную частку. Нешта замяніць, пачысьціць, наладзіць нейкі мэханізм — гэта яму таксама вельмі падабаецца», — расказала пра мужа Юлія.

Якія заробкі будуць у мужа на «хіміі», яна ня ведае, але на шмат не спадзяецца. Пакуль зводзіць канцы з канцамі ёй даводзіцца самой, дапамагаюць сваякі і праваабаронцы. «„Хімікі“ ж сябе самі мусяць карміць, самі гатуюць. Важу вось мужу харчы, каб не галадаваў», — кажа Юлія.

**Усё зьмянілася пасьля Плошчы-2010**

Юлія і Дзьмітры абое зь вёскі Чарэйшчына ў Лепельскім раёне, сябравалі з 18 гадоў. Юля добра памятае дзень, які вельмі істотна паўплываў на іх жыцьцё. «19 сьнежня 2010 году, калі былі пазамінулыя прэзыдэнцкія выбары, мы ўжо разам адзначалі маё 18-годзьдзе. Я ня памятаю ўжо, за каго тады галасавала, а Дзіма, хутчэй за ўсё, за Статкевіча. Але ня гэта важна. Гэта з тых выбараў ён зацікавіўся тым, што ў нас адбываецца, у яго нібыта вочы раскрыліся. Прыкладам, даведаўся пра долю Юрыя Захаранкі і мне пра яго апавядаў», — кажа Юлія.

Жонка кажа, што Дзьмітры ніколі ня быў актывістам нейкай партыі ці арганізацыі.

«Летась ён зьбіраў подпісы за кандыдатаў, рабіў допісы ў мясцовую групу „ЎКантакце“, улётку расклейваў у падтрымку палітвязьняў. Калі яго затрымалі, дык міліцыянты называлі яго „галоўным у раёне агітатарам“, хоць які ён быў агітатар? Проста чалавек са сваёй пазыцыяй», — лічыць жонка Дзьмітрыя Кулакова.

Дзьмітрыя Кулакова затрымалі 9 жніўня. З братам ён выправіўся на малую радзіму ў Лепельскі раён, каб прагаласаваць на ўчастку, дзе яны прапісаныя, але на выезьдзе з Шуміліна машыну затрымалі супрацоўнікі ДАІ. Таму Кулакоў нават і прагаласаваць не пасьпеў.

***(працяг на стр. 2)***



КРЫМІНАЛ

# УТОЙВАЛІ ПАДЗЕЖ ЖЫВЁЛЫ

**Крымінальная справа ў дачыненні да сямі калгаснікаў распачалі ў Шумілінскім раёне – яны хавалі падзёж і прыпісвалі прывагі.**

Пракурор Шумілінскага раёна ўзбудзіў у дачыненні да сямі службовых асоб гэтага калгасу справа па частцы 2 артыкула 427 КК – службовы падлог.

Праверка КДК выявіла сур'ёзныя парушэнні закона ў адной з сельскагаспадарчых арганізацый Шумілінскага раёна, дзе хавалі падзеж буйной рагатай жывёлы і займаліся прыпіскамі.

Так, у 2019 годзе ў гэтаму калгасе, каб «спісаць» восем здохлых цялятаў, склалі акты аб тым, што яны нібыта прададзеныя работнікам прадпрыемства сярэдняй вагой адной галавы 40,5 кілаграмы на агульную суму 953 рубля 50 капеек.

Такім чынам кіраўніцтву ўдалося крыху прынізіць прырост падзёжу жывёлы ў калгасе, які у 2019 годзе ў іх быў фактычна ў два разы больш, чым у 2018.

Акрамятаго,угэтайсельскагаспадарчай арганізацыі сістэматычна складалі фіктыўныя дакументы аб атрыманых прывагі буйной рагатай жывёлы, што пацягнула скажэнне дадзеных у дзяржаўнай статыстыцы.

Пасля передачы матэрыялаў праверкі ў праваахоўныя органы, пракурор Шумілінскага раёна ўзбудзіў у дачыненні да сямі службовых асоб гэтага калгаса крымінальная справа па частцы 2 артыкула 427 КК – службовы падлог.

Праўда, пазней, у студзені 2021, з улікам пакаяння гэтых калгаснікаў і таго, што раней яны не прыцягваліся да крымінальнай адказнасці, справу перакваліфікавалі ў адміністрацыйнае, паведамляе прэс-служба КДК.

**У. Прылуцкі**

COVID-19

# ПАНДЭМІЯ ПАЙШЛА НА СПАД?

**З 16 лютага ў Шуміліне перапрафілявалі цэнтральную раённую бальніцу, таксама, як у Міёрах і Гарадку.**

Станоўчыя прагнозы развіцця сітуацыі дазваляюць працягнуць паэтапнае перапрафіляванне ложкаў у бальніцах краіны. На пачатак лютага ў рэгіёнах Беларусі паступова паляпшаецца эпідэміялагічная сітуацыя.

Разам з тым адзначаецца тэндэнцыя зніжэння захворвання COVID-19, хоць пры гэтым ёсць нязначны рост вострых рэспіраторных інфекцый. У сувязі з гэтым такія станоўчыя прагнозы развіцця сітуацыі дазваляюць працягнуць паэтапнае перапрафіляванне ложкаў у бальніцах краіны. Пра гэта паведамляе Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

У Віцебскай вобласці працягваецца перапрафіляванне аддзяленняў у структуры цэнтральных раённых і гарадскіх бальніц. Так, з 15 лютага пачалі прымаць пацыентаў па профілю Гарадоцкая і Міёрская цэнтральныя раённыя бальніцы, а з 16 лютага – Шумілінская цэнтральная раённая бальніца.

**Алесь Шумскі**

ФІНАНСЫ

# БАНКРУТЫ? НЕ. ЁСЦЬ ДАЎГІ? СПІСАЦЬ!

**Даўгі амаль на 7 мільёнаў даляраў спісалі сельскім гаспадаркам Віцебскай вобласці, сярод якіх і наша «Лаўжанскае».**

Пяць сельгаспрадпрыемстваў Віцебскай вобласці вызвалены ад выплаты вялікай запазычанасці па крэдытах "Беларусбанка" – ім спісалі 17.857.688 рублёў.

19 лютага Саўмін прыняў пастанову, якая вызначыла пазіцыю прадстаўнікоў дзяржавы ў органах кіравання адкрытага акцыянернага таварыства «Ашчадны банк« Беларусбанк »аб вызваленні пяці сельскагаспадарчых прадпрыемстваў рэгіёну ад маёмаснай абавязкі па пагашэнні запазычанасці па крэдытных дагаворах.

У выніку гэтай пастановы банк спіша ЗАТ «АСБ-Агра Наватар» 14.912.657 рублёў 94 капейкі, КУСП "Эксперыментальная база Тулава" –106.788 рублёў 11 капеек, ААТ «Аршанскі камбінат хлебапрадуктаў» – 2.449.927 рублёў 69 капеек, СУП “Ліпаўцы” – 17.404 рубля 47 капеек, а с УП «Лаўжанскае – 370.910 рублёў 7 капеек. У гэтыя сумы ўваходзіць асноўны доўг, працэнты за карыстанне крэдытам, пені і натарыяльны штраф.

Варта нагадаць, што ў студзені васьмі перапрацоўчымсельгаспрадпрыемстваў Віцебскай вобласці, якія запазычыліся банкам 110.258.140 даляраў ЗША ў эквіваленце, урад прадаставіў субсідыі з рэспубліканскага бюджэту.

Год таму стала вядома, што аграпрамысловы комплекс Віцебскай вобласці да таго моманту назапасіў тры мільярды рублёў даўгоў, такую інфармацыю агучыў Сяргей Румас, які займаў тады крэсла прэм'ер-міністра. Лукашэнка пры гэтым заявіў, што гаворкі аб спісанні гэтых даўгоў быць не можа.

Не сакрэт, што такая дапамога калгасам носіць хутчэй палітычны характар, а да эканомікі дачынення не мае. Бо гэта – электарат улады. Як вядома, калгаснікі на Шумілінчыне па прычыне адсутнасці аюл затрымкі “жывых” грошай заробкі часткова атрымліваюць прадуктамі. Вось і раз'язжаюць па раёну аўталаўкі, дзе па спісах выдаюць прадукты харчавання. Натуральная аплата працы ў 21 стагоддзі – гэта нішто іншае, як картачная сістэма.

**Ян Вайтовіч**

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

***(пачатак на стр. 1)***

«Да брата Дзімы, які быў за стырном, прычапіліся як да кіроўцы, але ў выніку на 10 сутак пасадзілі Дзіму за непадпарадкаваньне. У ізалятары ў Шуміліне трымалі аднаго ў камэры, казаў, загад быў ад начальства, каб да палітычнага нікога не саджалі», — прыгадвае Юлія.

У жніўні Дзьмітры Кулакоў адбыў адміністрацыйны арышт, выйшаў на волю, пачаў працаваць, але неўзабаве даведаўся, што супраць яго завялі крымінальную справу за зьнявагу і пагрозу на адрас міліцыянта. Паводле Юліі, экспэртыза, якая вывучала допіс у інтэрнэце пра адказнага супрацоўніка міліцыі, толькі з трэцяй спробы ўстанавіла прыкмету злачынства.

«Быў допіс, у якім ён назваў гэтага міліцыянта „прыкарытнікам“, а таксама там было пра „люстрацыю“ і „самасуд“. Што была зьнявага, муж на судзе пагадзіўся, але пагрозу абвяргаў, казаў, што толькі папярэджваў, бо люстрацыя — лепш, чым самасуд. А міліцыянт сказаў, што зьвяртаўся да псыхіятра па дапамогу, маўляў, так на яго падзейнічалі тыя словы», — успамінае працэс над мужам Юлія Кулакова.

**Адзін пад’езд супраць Лукашэнкі, другі — за**

Паводле Юліі, пратэсты ў Шуміліне сьцішыліся, але гэта толькі бачнасьць.

«Вялікай актыўнасьці адразу пасьля выбараў у нас і не было, людзі даўно прызвычаіліся да таго, як праходзяць выбары, і асабліва не спадзяваліся», — расказала Юлія. Яна кажа, што ў канцы жніўня да трасы, што вядзе на Віцебск, выходзілі «можа, чалавек 60». Людзі станавіліся ў ланцуг, сьцягі трымалі. Але неўзабаве пратэстоўцаў супраць фальсыфікацыі выбараў і гвалту пачалі штрафаваць.

«Адна дзяўчына выходзіла зь бел-чырвона-белымі балёнікамі, яе затрымалі, дома сьцяг знайшлі, далі штраф. Паступова людзі прыціхлі, але настроі засталіся — куды яны падзенуцца, калі жыцьцё лепшым не становіцца?» — кажа Юлія.

Кулаковы маюць двух сыноў, трох і дзевяці гадоў. Юлія працуе сыраварам, яе працоўная зьмена пачынаецца а 8-й раніцы, канчаецца а 8-й вечара. Гэта і раней стварала праблемы, бо муж часта працаваў на будоўлях у розных месцах краіны, цяпер жа адной давядзецца «цягнуць сямейны воз». Але Юлія спадзяецца, што ён вернецца раней, чым праз тры з паловай гады.

«Ёсьць такая думка: хто ў раёне мае працу, дык задаволены, а пратэстуюць толькі лайдакі. Але гэта няпраўда. Сапраўды, вось ёсьць у нас птушкафабрыка, дык там нібыта шмат работнікаў галасавалі за Лукашэнку: маўляў, даў нам працу, неяк жывём, няблага. Але ў калгасах людзі як жывуць? Мае бацькі жывуць у Лепельскім раёне. Бацька інвалід, а мусіць працаваць на фэрме, крыху больш за 300 рублёў атрымлівае. Кажа, калгас развалены ўшчэнт. Дырэктараў штогод мяняюць, а выніку няма. Моладзь разьбягаецца, лепш бы зямлю людзям раздалі, пакуль яшчэ нехта можа рабіць. Маці ўсё жыцьцё адпрацавала настаўніцай, а мае пэнсію ўсяго 370 рублёў. Хіба на гэта можна нармальна пражыць?»

Паводле Юліі, яе бацькі зяця падтрымліваюць, а вось бацькі Дзьмітрыя вагаюцца. Што сеў — спачуваюць, што актыўнічаў — асуджаюць. Падзел у поглядах Юлія бачыць паўсюль.

«Днямі зайшла ў краму, дык пэнсіянэркі гучна пасварыліся. Адна абараняе Лукашэнку, другая яго імя чуць ня можа. Сказала, што тое самае ў іхным доме: ейны пад’езд супраць Лукашэнкі, другі пад’езд — за. Крычаць адна на адну».

Але прычынай падзелу Юлія лічыць ня розныя палітычныя погляды, а тое, як падлічылі вынікі выбараў. «Калі б сумленна падлічылі, людзі б даўно супакоіліся і замірыліся. А цяпер вось гэтак», — кажа маладая жанчына.

**“Свабода”**
**“Віцебская вясна”**

ЗДАРЭННЕ

# ВЫРАТАВАЛІ ДВАІХ МУЖЧЫН

**На пажары ў Шумілінскім раёне работнікі МНС выратавалі дваіх мужчын.**

20 лютага ў 20-25 на тэлефон «101» паступіла тэлефанаванне, у якім паведамлялася аб загаранні ў кватэры па вуліцы Даўмана ў гарпасёлку Обаль Шумілінскага раёна, паведамляе прэс-служба МНС.

На месца здарэння неадкладна выехалі работнікі МНС. Першым да месца прыбыло падраздзяленне пажарнага аварыйна-выратавальнага паста №11 Шумілінскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях. Ацаніўшы становішча камандзір аддзялення Яўген Салаўёў і пажарны Кірыл Арлоў убеглі ў пад'езд. «Было шмат дыму», – успамінае Яўген. Уваходныя дзверы ў кватэру, адкуль ішоў дым, былі зачынены знутры, на грук і просьбы адкрыць ніхто не рэагаваў.

Адразу ж было прынята рашэнне прабрацца ўнутр праз аконны праём, усталяваўшы трохкаленную лесвіцу. Патрапіўшы ў кватэру, на падлозе ля ўваходу ў жыллё ляжаў мужчына. Работнікі МНС, адкрыўшы дзверы, вынеслі яго на вуліцу і перадалі брыгадзе медыкаў, пасля агляду якімі мужчына ў шпіталізацыі не меў патрэбы.

Да гэтага часу другое звяно газадымаахоўнай службы ў складзе начальніка варты Аляксандра Равуцкая, камандзіраў аддзяленняў Пятра Казлоўскага і Андрэя Саматыя зайшлі ў жыллё і ў ходзе выведкі на падлозе ў пакоі выявілі яшчэ аднаго мужчыну. Ратавальнікі вынеслі яго на вуліцу і перадалі брыгадзе медыкаў. Пасля агляду пацярпелага шпіталізавалі ў бальніцу.

Паралельна кіроўцамі Вадзімам Купрыянавым і Дзмітрыем Кляцкова з суседніх кватэр былі эвакуіраваны тры чалавекі.

У выніку пажару ў пакоі пашкоджаныя дыван і падлога, закураны столь і сцены. Прычына здарэння высвятляецца. Найбольш разгляданая версія – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні адным з выратаваных.

**Сяржук Крупскі паводле матэрыялаў УУС**

СПОРТ

# БРОНЗАВАЯ ЎЗНАГАРОДА ЧЭМПІЯНАТА СВЕТУ

**Бронзавую ўзнагароду – першую асабістую у сваёй дарослай кар'еры ўзяла наша Шумілінская зямлячка Ганна Сола.**

13 лютага здарылася тое, чаго даўным-даўно не бывала: у біятлоннай зборнай Беларусі адбылося медальную папаўненне на ЧС. Бронзавую ўзнагароду – першую асабістую у сваёй дарослай кар'еры – з дапамогай чыстай стральбы і дзевятага лыжнага ходу ўзяла Ганна Сола, якой 16 лютага споўнілася 25 гадоў. А для многіх заўзятараў дасягненне Солы аказалася асаблівым, піша Трыбуна.

*Факты пра Ганну Солу, якая адзіная спартсменка ва ўсёй зборнай Беларусі (і жаночай, і мужчынскай), не падпісала праўладнае ліст, а цяпер ўзяла медаль ЧС.*

1. Пры гэтым *Сола аб сітуацыі ў краіне пасля выбараў* наогул не выказвалася, тым больш не была заўважаная ў патрабаванні сумленных выбараў і спынення гвалту – аднак, па наяўнай інфармацыі, нават адстойванне пазіцыі простага нежадання падпісвацца за ўладу запатрабавала немалых высілкаў.

Тым не менш, нават пад прэсінгам, пра які нагадала Надзея Астапчук, біятланістка змагла вельмі годна падрыхтавацца да ЧС.

2. Брала з аднагодкай Алімбекавай золата ЮЧМ.

3. *Біятланістка родам з Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці* і вырасла ў вёсцы Завяззе – гэта ўсяго ў 35 км ад абласнога цэнтра. Сола ўспамінала, што ў дзяцінстве ёй даводзілася пераадольваць па 3 кіламетры дзеля школы.

4. У біятлоне жа *Ганна лічыцца выхаванкай віцебскай СДЮШАР* прафсаюзаў «Алімпіец» – гэтак жа, як і Ірына Крыўко, якая старэйшая за калегі па зборнай на пяць гадоў. Пасля школьных гадоў шлях Солы ляжаў у ВАР( вучылішча алімпійскага рэзерву) Наваполацка, адкуль спартсменка ўжо ў 2013-м трапіла на Кубак IBU, а ў 2015-м адправілася ў Раўбічы на юніёрскі чэмпіянат свету.

5. Там у Солы здарыўся *галоўны да 2021-га поспех у кар'еры* – яна ўзяла золата ў эстафеце з трох этапаў разам з аднагодкамі Дар'яй Блашко і Дынарай Алімбекавай. Прычым менавіта Сола ўнесла ключавы ўклад у поспех – ад Алімбекавай яна прыняла трэцюю пазіцыю, а Блашко аддала ўжо першую, якую заставалася ўтрымаць. Фота Солы пасля трыумфу размясцілі ў родных мясцінах на бігбордзе з подпісам «Гонар Шумилиншчыны».

6. *У кар'еры ж пасля моладзевага трыумфу* усё было складана - у наступным сезоне яе пачалі падключаць да этапаў КМ, але вялікіх поспехаў там дамагацца не атрымлівалася.

Спартсменка ўсё больш расчароўвалася ў сваіх выніках – пачуццё дасягнула піку ў канцы 2017-га, пагаршаючы, па прызнанні Солы, вельмі маленькімі даходамі ад яе дзейнасці. У студзені 2018 га, на парозе свайго 22-годдзя, дзяўчына вырашыла скончыць з біятлонам і з'ехала дадому. Праз тыдзень ёй патэлефанавалі з федэрацыі і прапанавалі альтэрнатыву – трэніраваць таленавітых дзяцей з Наваполацкага ВАР.

Спартсменка пагадзілася вярнуцца ў «сям'ю», а пры трэніроўках для васьмікласнікаў стала лепш разумець ўласныя памылкі.

7. *Вясной 2018 га Ганна з'ездзіла на месячны збор у Францыю*, дзе адчула паляпшэнне формы, і зноў уліліся ў нацкаманду – тым больш адтуль сыходзілі шматгадовыя лідэры Дар'я Домрачава і Надзея Скардзіна. Аднак сезон 2018/19 рэзкага прагрэсу не прынёс – на Кубку свету Сола ўсяго двойчы заехала ў ачковую зону топ-40, а лепшым вынікам стала 34-е месца спрынту ў Рупольдынгу.

Нават бронзавы медаль у змяшанай эстафеце ЧЕ-2019 у Раўбічах не моцна ўзрадавала Ганну, якая зноў задумалася аб сыходзе...

Аднак пазней біятланістка ўсё ж вырашыла змагацца далей.

8. *Ставіла дызлайк мінуламу ЧС*. А вось ЧС-2020 для беларускай зборнай атрымаўся проста ніякім - лепшым у дзяўчат стала 30-е месца Крыўко ў «индивидуалке», а Сола стала толькі 84-й у спрынце і 50-й у «індывідуалцы». Эстафета таксама не суцешыла – Ганна не заходзіла на штрафныя кругі, але каманда стала толькі 13-ты.

Усе зборніцы былі вельмі павольнымі на трасе і наракалі на методыку падрыхтоўкі расійскага трэнера Уладзіміра Каралькевіча, а Крыўко заяўляла, што «нейкі формы на галоўным старце сезона проста няма» – былі і больш ёмістыя фармулёўкі.

Сола ж у запісе Алімбекавай ацаніла турнір па метадзе соцсетей - разам з калегам ўляпіла яму дызлайк. Год праз усё пойдзе значна лепш.

9. *Са сваім хлопцам здымалася для госТВ ўжо пасля выбараў.*

У Солы ёсць малады чалавек – гэта 29-гадовы веласіпедыст клуба «Мінск», пераможца дзевяці шашэйных гонак з катэгорыяй ад міжнароднай федэрацыі Station Станіслаў Бажкоў. Яны пазнаёміліся ў 2019-м годзе ў інтэрнэце, але адразу злавілі адчуванне вельмі даўняга знаёмства і былі на сувязі практычна круглымі суткамі. Сола прызнавалася, што ад любоўнага пачуцця ў яе «нібы з'явіліся крылы за спіной».

Пры гэтым ужо на першым спатканні Бажкоў даказаў, што гатовы для Солы на подзвігі – справа ў тым, што для сустрэчы з выбранніцай яму прыйшлося адправіцца праз паў-Еўропы. «Ён разумеў, што на працягу сезону я не з'яўлюся ў Беларусі, таму сам вырашыў прыехаць на святы ў Італію, дзе праходзіў наш збор.

І калі чалавек адзін праехаў за рулём без прыпынку дзьве тысячы кіламетраў дзеля сустрэчы са мной, паверыла ў сур'ёзнасць яго намераў», – казала Ганна.

У 2020-м які паставіў міжнародныя спаборніцтвы на паўзу каранавіруса ў пары з'явілася значна больш часу, каб праводзіць яго разам. А ўвосень яны зняліся для праекта «Дзень спорту» на госТВ - абодва заселі на ровары.

На камеру Бажкоў прызнаўся, што з дзяцінства вельмі любіў біятлон, а яшчэ распавёў пра тое, што Сола не кінула каханага ў бядзе – дзякуючы яе падтрымцы ён хутчэй аднавіўся ад траўмы пазваночніка, з-за якой не мог нейкі час нават хадзіць.

Мы ведаем, што вам цікава – подпіса Бажкова пад праўладным лістом няма (роўна як і пад лістом SOS BY).

10. *Лічыць беларускі народ “клёвым”.* Ганна заўсёды дзякавала заўзятараў за падтрымку, пры гэтым не думала, што заслужыла гэтага. «Я ўвесь час кажу" дзякуй ", гэта ад душы. Так шмат пазітыву ў мой бок. Часам думаю: "За што?». Я спадзяюся, людзі адчуваюць, што я шчыра іх дзякую. Таму што не магу перадаць словамі, як гэта прыемна. Людзі вераць у цябе больш, чым ты», – захаплялася біятланістка у 2019-м.

Незадоўга да ЧС-2021 наваполацкія журналісты запыталіся ў Солы, ці чытае яна каментары ў соцсетках. Ганна ў адказ зрабіла камплімент ўсяму беларускаму народу: «Я паважаю меркаванне іншых і з-за каментарыяў ніколі не хваляваліся. Калі і бывае нейкі негатыў, то я натыкаюся вельмі рэдка. **У нас клёвы народ і самыя лепшыя заўзятары**".

**“Трыбуна”**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

АБ’ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЧАМУ ДЫЯЛОГУ НЕ БЫЛО, НЯМА І НЕ БУДЗЕ

**Кажуць, у спрэчцы нараджаецца ісціна. Магчыма… Адкуль няўпэўненасць? Яна ад жыцця. Хто і калі апошні раз быў сведкам спрэчкі (дэбатаў, дыскусіі ці нечага падобнага) у СМІ паміж палітычнымі апанентамі?**




Мы маем дзве інфармацыйныя рэальнасці, якія практычна ніяк не сутыкаюцца. У адной рэальнасці Беларусь прэзентуюць як донара еўрапейскай стабільнасці, якой зайздросцяць блізкія і далёкія суседзі. У іншай — адзіны палітык у краіне (АП) не можа расслабіцца нават у выходныя. Пра гэта ён прызнаўся ў інтэрв'ю расійскай журналістцы Наіле Аскер-задэ: «Ну, ты ж ведаеш. У нас пратэстуны хадзілі па вуліцах па выходных, таму і выходных не было, калі ўжо так адкрыта казаць».

**Вавёрка, якая скапыцілася**

Калі няма спрэчак — адпаведна, няма і ісціны. У выніку краіна ў геаграфічным цэнтры Еўропы ўсё больш пачынае нагадваць «Востраў няўдач», дзе ў жыхароў перыядычна ўзнікалі праблемы з адловам кракадзілаў і зборам какосаў (з ростам ВУП і сярэдняй зарплаты ў доларавым эквіваленце).

Адсутнасць спрэчак шчодра кампенсуецца ў афіцыйнай інфармацыйнай рэальнасці размовамі пра агульнанацыянальны дыялог, які вядзецца на так званых «дыялогавых пляцоўках». Па-за межамі ж такіх пляцовак, як паказвае практыка, дыялог паміж прыхільнікамі і апанентамі ўлады прыняў форму допыту.

Пляцоўкі для такога кшталту дыялогаў, як правіла, арганізоўцца ў СІЗА. Вось як свой удзел у дыялогу апісаў АП: «Я ўбачыў людзей (ну, вы ж мяне ў Расіі да гэтага часу падштурхоўваеце — давайце з апазіцыяй, асабліва ваша ліберальнае крыло). Ну вось я і пагаварыў. Я ўбачыў людзей, якія хацелі быць ва ўладзе, імкнуліся прыйсці да ўлады. Я іх выслухаў…».

Крыху статыстыкі. Паводле звестак праваабаронцаў, на 22 лістапада колькасць затрыманняў удзельнікаў пратэстаў перавысіла 30 тысяч, на палітычных апанентаў улады было заведзена больш за 900 крымінальных спраў. Не даводзіцца сумнявацца, што кожнай крымінальнай справе папярэднічаў допыт.

…У мяне няма падстаў сумнявацца ў тым, што ўсе дыялогі «пратэстуноў» са следчымі ажыццяўляліся толькі і выключна ў поўнай адпаведнасці з законам ды толькі і выключна ў рамках.. Ох, нялёгкая гэта работа — штодня апрацоўваць такі аб'ём аператыўнай інфармацыі. Адсюль — вобраз вавёркі ў коле, няздольнай спыніцца: «Вось кола круціцца — ты бяжыш, бяжыш, бяжыш. Напэўна, пакуль, як у народзе кажуць, не скапыцішся, не паваліўся».

**Артыкул 83, пункт 6**

Аднак пакінем вавёрку самнасам з яе колам і ўявім сабе на хвіліну, што дыялогавыя пляцоўкі з СІЗА перанясуць у тэлестудыі. Ці многае пры гэтым зменіцца? Сумняваюся. Змены, калі і здарацца, то зусім не ў збліжэнні пазіцый удзельнікаў дыскусій…

Для таго, каб у спрэчцы нарадзілася ісціна, мэтай абмеркавання павінен стаць... пошук ісціны. Але сярод родных бяроз і асін тыя, хто спрачаецца, як правіла, занятыя доказам сваёй праваты. Ісціну яны не шукаюць. Яна ім вядомая яшчэ да пачатку спрэчкі. Таму ўсю сваю энергію накіроўваюць на абвяржэнне аргументаў апанентаў. Тут не да выпрацоўкі кансенсусу. Як бы ад словаў да рукапрыкладства не перайсці.

Але гэта яшчэ палова бяды. Збліжэнне пазіцый у працэсе спрэчкі магчыма толькі пры ўмове знаходжання пункту адліку, з якога пачынаецца разыходжанне. Для палітычных спрэчак у Беларусі такім пунктам з'яўляецца стаўленне да рэферэндуму 1996 года.

Прыгадаем хлопцаў у цывільным, якія выкінулі старшыню ЦВК Віктара Ганчара з ягонага кабінета. Чый загад яны выконвалі? Наколькі гэты загад адпавядаў дзейнай на той момант Канстытуцыі?

Адкрываем тэкст Канстытуцыі. У артыкуле 83 «Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь», які апісвае паўнамоцтвы вышэйшага прадстаўнічага і адзінага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, знаходзім пункт 6: «утварае Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў».

Здавалася б, якія тут магчымыя рознатлумачэнні? Тым не менш, вынікі рэферэндуму ЦВК падводзіў пад кіраўніцтвам Лідзіі Ярмошынай, а не Віктара Ганчара.

**Такая вось карціна свету**

Сказаўшы А, варта гаварыць і Б. Калі прызнаць вынікі рэферэндуму законнымі, не варта здзіўляцца, што «ў 2020-м нам фактычна абвясцілі вайну». Такая афіцыйная ацэнка. Нічога дзіўнага, нічога асабістага і нічога арыгінальнага яна не ўтрымлівае — ідэалагема ворага старая як свет…

3 сакавіка 2003 года лепшыя дзяржаўныя розумы спрабавалі знайсці стрыжнявую ідэю для дзяржаўнай ідэалогіі. Што толькі ні прапаноўвалася: ад патрыятызму да прэтэнзіі Беларусі на ролю донара еўрапейскай стабільнасці, якая ініцыюе правядзенне «Хельсінкі-2». Але 2020 год усё расставіў на свае месцы. Ён паказаў, што мадэль «імітацыйнай дэмакратыі», мадэль «электаральнага аўтарытарызму» (каму як больш падабацца) — не гумавая.

У любой самабытнасці існуе свая мяжа, за якой у тых, хто хоча гуляць у агульнай пясочніцы, пачынаюць фарміравацца праблемы. Перафразую 16-га прэзідэнта ЗША Аўраама Лінкальна: «Можна падманваць частку заходніх партнёраў увесь час, і ўсіх — пэўны час, але нельга падманваць усіх заходніх партнёраў увесь час».

Няздольнасць упісацца ў сучаснасць патрабуе ідэалагічнага абгрунтавання…. Чаму супраць нас настроіліся? Таму што беларуская дзяржава, «нягледзячы на сціплае месца на карце свету, можа дазволіць сабе праводзіць незалежную знешнюю і ўнутраную палітыку. Менавіта ў гэтым прычына. Калі б мы былі слабымі, з намі б разабраліся без гэтых падзей і без вайны».

Справа не ў нас. Свет так уладкаваны, і так ён быў уладкаваны заўсёды…

* * *

*Такая вось карціна свету. Яна ўсё яшчэ актуальная для мільёнаў беларусаў. Шляхам дыялогу яе не зменіць. Які тады сэнс абмяркоўваць вынікі «выбараў» з тымі, хто верыць у законнасць рэферэндуму 1996 года? У іх сістэме каштоўнасцяў закон ніякай каштоўнасці не ўяўляе. Юрыдычныя фармальнасці, выкананне працэдуры і іншыя дурасці — толькі перашкода на шляху да мэты, якую вызначыў правадыр.*

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ВЫНІК

# «ПАСЬЛЯ ЛУКАШЭНКІ АД ДЗЯРЖАВЫ ЗАСТАНУЦЦА РУІНЫ»

**Кіраўнік праекту Belarus security blog Андрэй Паротнікаў адказвае на пытаньні, наколькі далёка беларускі рэжым гатовы ісьці ў сваіх рэпрэсіях, разважае пра люмпэнізацыю сілавых структураў і канстатуе, што Лукашэнка лічыць сябе палітыкам эўрапейскага маштабу.**

Сьцісла:

Рэжым імкнецца запэцкаць у неправавой дзейнасьці максымальна шырокае кола сілавікоў і дзяржаўных службоўцаў

Працэс, які пачаўся ў нулявыя — люмпэнізацыя сілавых структураў, асабліва войска

Служыць афіцэрамі ў войска ідуць людзі, для якіх гэта адзіны даступны сацыяльны ліфт

Менск спрабуе гуляць у геапалітычную гульню ва ўмовах, калі ніхто зь ім гуляць у гэта ня будзе...

***— Але калі не шукаць нейкіх схаваных прычын, а аналізаваць тыя факты, якія мы бачым, — то, акрамя прысудаў, мы назіраем і падрыхтоўку да прыняцьця пэўных драконаўскіх законаў. Ці не азначае гэта стратэгічнага курсу на пабудову ўжо не аўтарытарнай, а таталітарнай сыстэмы? Калісьці Лукашэнка сам казаў, што для пабудовы дыктатуры ў Беларусі ў яго проста не хапае рэсурсаў. Цяпер што — знайшліся?***

— Трэба памятаць, што ў Беларусі мала значэньня мае, што напісана ў законе, а важна тое, як гэта выкарыстоўваецца. Давайце ўзгадаем хаця б сумнавядомы артыкул у КК аб «дыскрэдытацыі РБ», які існуе шмат гадоў, але ніводнай крымінальнай справы па ім заведзена не было. Таму драконаўскія законы і іх магчымае выкарыстаньне — гэта далёка не адно і тое ж. І ўвогуле бываюць моманты, «калі не да законаў». Беларусь — не прававая дзяржава, таму ня варта рабіць высновы з таго, якія законы прымаюцца. Самае галоўнае — гэта правапрымяняльная практыка.

***— У гэтай самай практыцы таксама апошнія тыдні адбываюцца беспрэцэдэнтныя рэчы. Судовы працэс у Берасьці, дзе пацярпелымі выступаюць вайскоўцы сілаў спэцыяльных апэрацый Раман Гаўрылаў і Арсеній Галіцын, сьведчыць пра тое, што падчас пратэстаў для іх падаўленьня выкарыстоўваліся ня толькі міліцыя і ўнутраныя войскі, але і армія, баявыя часткі. Ці было гэта законна і пра што сьведчыць гэты факт?***

— Па-першае, гэта законна. Няма ніякіх абмежаваньняў у выкарыстаньні арміі ў тым, што афіцыйна называецца «падтрыманьнем правапарадку», але фактычна зьяўляецца рэпрэсіямі супраць мірных грамадзянаў.

Рэжым рыхтаваўся загадзя да таго, што адбывалася пасьля 9 жніўня. Жорсткасьць, катаваньні, зьбіцьцё — гэта ўсё было загадзя сплянавана і падрыхтавана. У дадзеным выпадку відавочна тое, што рэжым імкнецца запэцкаць у неправавой дзейнасьці максымальна шырокае кола сілавікоў і дзяржаўных службоўцаў. У нашым выпадку — гэта вайсковы генэралітэт.

Гэта сьведчыць пра тое, што пасьля Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі ад дзяржавы застануцца руіны. Я маю на ўвазе дзяржаўныя інстытуты, іхны аўтарытэт, іхнюю здольнасьць ажыцьцяўляць кіраваньне дзяржавай. Мы цяпер назіраем фактычна развал той рэспублікі, якую 26 гадоў фармаваў Лукашэнка.

***— На пачатку размовы вы сказалі, што ўлады «хацелі б вывесьці на пэўную стабілізацыю сытуацыі ўнутры краіны», у тым ліку дзеля таго, каб паспрабаваць зноў наладзіць адносіны з Захадам. Але пакуль стратэгія Лукашэнкі выглядае прыблізна так — «возьмем як мага больш закладнікаў, каб потым гандляваць імі з Захадам». Маўляў, «калі вы будзеце павялічваць санкцыі, мы будзем павялічваць рэпрэсіі супраць сваіх жа грамадзянаў, «бамбіць Варонеж», як кажуць у Расеі. І што Захад можа проціластавіць такой лёгіцы паводзінаў?***

— Захад мог бы шмат што зрабіць з таго арсэналу, які ён мае. Але, шчыра кажучы, ні халеры ня робіць.

Адносна паводзінаў беларускай улады трэба разумець, што ў сваёй сыстэме каардынатаў яны дзейнічаюць даволі рацыянальна. Тое, што журналісткі «Белсату» атрымалі 2 гады — гэта ня значыць, што падчас апэляцыі гэты прысуд будзе пацьверджаны.

Іншы момант. Аляксандар Лукашэнка шчыра верыць, што ён палітык эўрапейскага маштабу. Ня парыя, а ўплывовая асоба. Бо Беларусь займае такое важнае геапалітычнае становішча, што безь яе не абыдзесься. Таму Менск спрабуе гуляць у геапалітычную гульню ва ўмовах, калі ніхто зь ім гуляць у гэта ня будзе. І калі Менск зразумее, што гульня не атрымліваецца, — я думаю, мы пабачым шпаркія крокі па дээскаляцыі.

Усе эканамічныя пляны Менску прадугледжваюць нейкія грошы і інвэстыцыі. Адкуль яны зьбіраюцца браць гэтыя грошы? Ведама, толькі на Захадзе.

**svabod1.azureedge.net**
**Віталь Цыганкоў**

РОДНАЯ МОВА

# ВЫГЛЯДАЕМ ЯК ТЫПОВАЯ АЎТАНОМІЯ РФ

**У 1995 годзе ў беларускае мовы забралі статус адзінай дзяржаўнай. У якой групе моваў рэгіёну яна апынулася за 26 гадоў? Ці разам з украінскай, эстонскай, казаскай? Не, яна разам з удмурцкай, башкірскай і комі — у трывожным сьпісе UNESCO. Лічбы і дыяграмы паказваюць: гэта вынік «дзяржаўнага двумоўя».**

Дзяржаўныя мовы іншых незалежных «постсавецкіх» краін пашыраюць свае функцыі, расьце колькасьць людзей, якія імі валодаюць, прызнаюць роднымі, карыстаюцца.

Але імкліва падае колькасьць тых, хто валодае і карыстаецца мовамі тытульных народаў расейскіх аўтаноміяў. Там прынамсі па дзьве дзяржаўныя мовы.

Навіны пра моўную палітыку ў аўтаноміях РФ нярадасныя: пратэстуючы супраць моўнай дыскрымінацыі, удмурцкі навуковец спальвае сябе; судзьдзя называе «цыркам» зварот актывіста на мове комі...

Стратэгія ратаваньня беларускае мовы павінна прадугледжваць вяртаньне ёй статусу адзінай дзяржаўнай. Калі гэтага няма — пляны марныя. Будзе як ва Ўдмуртыі.

Навіны пра моўную палітыку ў аўтаноміях РФ нярадасныя: пратэстуючы супраць моўнай дыскрымінацыі, удмурцкі навуковец спальвае сябе; судзьдзя называе «цыркам» зварот актывіста на мове комі... А ці ў нас сытуацыя інакшая?

26 гадоў таму разварот палітычнага курсу афіцыйнага Менску пачаўся менавіта з моўнага пытаньня. Яно было ў бюлетэні рэфэрэндуму 1995 году, які бальшыня незалежных юрыстаў лічыць супярэчным Канстытуцыі і заканадаўству. Быў скасаваны статус беларускае мовы як адзінай дзяржаўнай, у якім яна пабыла ўсяго пяць гадоў. Гэта паслужыла грунтам для аднаўленьня дыскрымінацыі беларускамоўных, для выцісканьня беларускае мовы з бальшыні дзяржаўных і сацыяльных сфэраў ужытку.

…Пасьля непрацяглага росту беларускамоўнай ідэнтычнасьці (была ж і кароткая эпоха «беларусізацыі» 20-х гадоў у БССР) надалей у савецкі час ішоў яе няўхільны, хоць і павольны, спад — па 3–6% кожныя дзесяць год. Тэндэнцыя пераламілася, як толькі беларуская мова стала адзінаю дзяржаўнаю і Беларусь аднавіла незалежнасьць.

У 1999 годзе 73,7% грамадзянаў назвалі беларускую мову роднай (ясна, што 1999 год — зусім не 1993, але моўнакаштоўнасны выбар людзей мае пэўную інэрцыю).

…Паводле крытэраў UNESCO, крытычны парог самаўзнаўленьня для мовы — 30% практычных носьбітаў. Адпаведна ў 2009 годзе беларуская мова трапіла ў Атляс моваў сьвету ў небясьпецы UNESCO ўстане vulnerable (аслабленай, уразьлівай).

Беларусы — адзіны зь дзяржаватворчых народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, а таксама постсавецкай прасторы, чыёй нацыянальнай мове пагражае небясьпека зьнікненьня.

Пры гэтым Беларусь — адзіная незалежная дзяржава на тэрыторыі былога СССР, у якой мова тытульнае нацыі ня мае статусу адзінай дзяржаўнай, а дзеліць яго з расейскаю моваю.

Я раней ня раз пісаў, што радыкальная й хуткая (20–25% за дзесяць гадоў) зьмена моўнай ідэнтычнасьці — беспрэцэдэнтная для моўных сытуацыяў у сьвеце. Пагатоў для «маладой дзяржавы», у якой, здавалася б, мусіць мацавацца нацыянальна-культурная тоеснасьць.

Сапраўды, сярод моваў дзяржаватворчых народаў гэта нешта надзвычайнае. Але беларускую дынаміку вельмі нагадвае моўнае становішча ў аўтаноміях Расейскай Фэдэрацыі.

**Вінцук Вячорка**
**svabod1.azureedge.net**

ПОГЛЯД

# ВОЙНА ВСЕ СПИШЕТ?

**Они сами на своем съезде сидели с хмурыми лицами, потому что понимали, что все эти речи — не о том.**

***Марья Ивановна:*** *Дети, запишите тему урока: «Война и мир».*

***Вовочка:*** *Да ладно! Вы ж ещё моему бате 30 лет назад эту историю рассказывали!*

В анекдоте фигурирует Марья Ивановна, у нас — Александр Григорьевич, но в остальном все по накатанному: он уже почти 30 лет эту историю рассказывает.

Большая половина доклада Александра Лукашенко на Всебелорусском собрании была про войну. Чудо просто, что до космических баталий не дошло. Поскольку наверняка и на Марсе инопланетяне спать не могут — все думают, как навредить властям Синеокой. Даже странно, что генералы до сих пор не доложили.

... Про войну у Лукашенко красочно получается, как в кино. А вот с миром — плохо. Потому что любое предложение о мире разбивается о репутацию докладчика.

Ну, например.

Пенсии. Государство хочет создать специальные фонды, куда белорусы будут отчислять деньги себе на пенсии.

Ага! Разбежались! Мы что, не помним, как у нас пенсионные фонды закрывали, «раскулачивали»?! И кого беспокоило, что люди в них копили средства себе на пенсию? Проходили. Знаем. Ищи дураков.

Экономика. Призыв «шевелиться самим». Так вы же 26 лет из всех орудий лупили по всему, что шевелится. В Беларуси любого можно посадить, разорить, отжать бизнес и еще получить за это звездочки на погоны. И садили, и разоряли, и отжимали. Хоть одному такому отжимале дали по рукам?

Патриотизм. После спецоперации по выбиванию патриотизма ОМОНовскими дубинками и берцами — это тема, о которой действующей власти вообще лучше молчать. Потому что не бывает патриотизма «правильного» или «неправильного». Он либо есть, либо его нет. И когда вы устроили на улицах белорусских городов настоящую охоту на людей в белорусских вышимайках и одежде национальных цветов, то даже не смеете заикаться, что озабочены воспитанием патриотов.

Лопаты. Ну вот почему минчане не берут у ЖЭСов лопаты и не расчищают снег? Почему при соцопросе, который так порадовал Лукашенко, большинство белорусов ответили, что рассчитывают только на себя? Да потому что эта власть лихо умеет только обмануть и обобрать. И ничего хорошего от этой власти люди уже не ждут. Они рассчитывают только на себя, они злы и обижены настолько, что по призыву власти не готовы делать ничего. Даже расчищать снег.

Да и небезопасно это в нынешних условиях, на грани уголовки: массовое мероприя , не так посмотрели в сторону мимо проходящего ОМОНовца, ему не понравилось. И дело готово — «умышленно», «в сговоре», «причинили моральные страдания», «споткнулся», «легкие телесные повреждения мизинца»...

Вот пусть ОМОНовцы снег и чистят! Вместе с судьями! На них налогов хватает — пусть хватит и на снегоуборочную технику!..

И так можно пройтись по каждому пункту «мирной программы» — нет веры. Ни одному обещанию нет веры — ни про зарплаты, ни про деревообработку, ни про образование, ни про рабочие места. Они сами на своем съезде сидели с хмурыми лицами, потому что понимали, что все эти речи — не о том.

Унизить собственный народ, сделать его бесправным в своей стране — это худшее, что могла сделать власть. Это репутация, которую не отмыть. И абсолютно точно это история не о мире.

В этой ситуации уместны не доклады про войну. В этой ситуации уместно только раскаяние. Освободить всех политических узников и попросить прощения. Вот что должен был сделать Лукашенко. Но он продолжает действовать по принципу «война все спишет». Однако хмурые лица участников «съезда» — лучшее свидетельство того, что они, как раз, в этом совсем не уверены.

**Светлана Калинкина**
**belaruspartisan.by**

МЕРКАВАННЕ

# ИЗ ОБРАЩЕНИЯ К СВЕТЛАНЕ ТИХАНОВСКОЙ

**В самом начале своей программы под названием «Стратегия победы белорусов» Тихановская начинает с вопроса: «Если мы всё делаем правильно, почему мы еще не отстояли свою победу?»**

Если бы мы вели беседу, я бы уточнил одно слово: а про какую победу вы пишете? Моральная ваша победа неоспорима. Ни гений фдемагогии, ни его пропаганда ничего не смогли с ней поделать. Ни их телевизор, ни газеты, ни пропагандисты — все они оказались бессильны перед вашей моральной победой.

Победа же во властных структурах пока далека. И вы имели шансы одержать властно-номенклатурную победу. Но она бы обернулась катастрофой для белорусов. Вас бы прокляли за эту «победу»-трагедию. И вот почему.

Что ждало бы белорусов в случае победы во властных коридорах сторонников демократии, ваших сторонников? Нечто подобное на войну в Чечне. Почитайте внимательно официальное сообщение о встрече Лукашенко и Путина в Сочи 14 сентября: «…Но главное, я это постоянно говорю, — не переходить черту. Есть красная линия (вам тоже это знакомо и известно больше, чем мне, вам пришлось эти линии чертить по Чечне прежде всего, когда вы стали еще совсем молодым президентом…Пока эти красные линии никто не нарушал».

Захвати в то время ваши сторонники властные кабинеты, одержи властно-номенклатурную победу, Беларусь залили бы кровью войска РФ, как когда-то в Чечне.

«Александр Григорьевич попросил меня сформировать определенный резерв из сотрудников правоохранительных органов. И я это сделал», — сказал Путин.

«Но мы договорились также, что он не будет использован до тех пор, пока ситуация не будет выходить из-под контроля», — добавил он.

Но Бог миловал. Победу одержал менталитет белорусов, которые снимали обувь, перед тем, как встать на скамейку. Каждодневные победы одерживали радостные, счастливые улыбки белорусов. В итоге Путин решил не вводить в Беларусь войска, которые стояли на границе под Смоленском. Решил отправить их в места дислокации.

....И после десятков тысяч арестованных, искалеченных ваших сторонников, убитых граждан и брошенных в застенки детей, когда после демонстрации изуверства страны ЕС повычеркивали из санкционных списков «кошельки» диктатора, скажите, как бы тогда отреагировали ваши партнеры из стран ЕС на кровопролитие в Беларуси?

Согласитесь, дальше высказываний «возмущения», «сожаления» и призывов «прекратить насилие и кровопролитие», «сесть за стол переговоров» дело бы не пошло. И в Роттердаме на бирже по-прежнему продавались бы нефтепродукты из Беларуси и везли бы через прибалтийские порты калийные удобрения.

Кстати. после заявления вашего Координационного совета кремлевские мудрецы сделали вывод. В конце 2020 года они заключили уникальный договор:

Соглашение о сотрудничестве между Министерством внутренних дел Республики Беларусь и Федеральной службой войск национальной гвардии Российской Федерации

Прочитайте пару строк из этого соглашения:

***Статья 4 Запросы об оказании содействия***

*1. Сотрудничество в рамках настоящего Соглашения осуществляется на основании запросов заинтересованной Стороны об оказании содействия (далее — запрос) или по инициативе Стороны, предполагающей, что такое содействие представляет интерес для другой Стороны.*

Вы представляете, что они записали? О чем договорились? Сейчас, если вы одержите Победу, в Кремле решат, что их содействие представляет интерес для руководства РБ и ее народа. И спокойно, не мучаясь юридической совестью, направят свои войска в Беларусь заливать кровью вашу победу, о которой вы печетесь в самом начале своей программы….

*(скарочана)*

**Владимир Подгол**
**«Белапан»**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 27.02.2021 у 17.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.